# НАВІНКІ

18 - 27 студзеня 2000 №1(23) Кошт свабодны

# IN PUTIN WE TRUST



Арганічны стан душы славянскага чалавека - гэта анамальная эсхаталягічная завернутасьць. Наша калектыўная слабасьць - не тупое спажываньне як на гнілым Захадзе, а пачуцьцё прыналежнасьці да глябальнай бітвы за нейкія трансцэдэнтныя ідэалы. Перш за ўсё гэты комплекс рэалізуецца шляхам пэрыядычнай пэрсаніфікацыі асобы нейкага палітыка з харызматычным героем, які вядзе свой народ на сьвятое мачылава. Аспэкты гэтай пэрсаніфікацыі вельмі складаныя, аднак зразумела, што экзальтаваны народзец проста ня мог прайсьці міма лічбы 2000, каб не прыдумаць сабе новага Мэсію і ўкласьці ў яго нейкія паранармальныя чаканьні і надзеі. І вось Мэсія прыходзіць. Ён проста ня мог не прыйсьці. Адзіны, хто страціў ад містыкі лічбаў - наш родны беларускі лідэр, які па-простаму не ўпісаўся ў ракавую двойку з трыма нулямі...

Поплеч з чачэнцамі ваююць беларусы. Стар.3

НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

1979 год. Першыя Каляды!

## За каго ваююць беларусы ў Чачэніі.

Стар.3

## Ісусу Хрысту споўнілася 2000 гадоў.

HAPPY BIRTHDAY!

Стар.4-5




## У Навагоднюю ноч быў пастаўлены рэкорд кнігі Гінэса па падыманьні шклянкі!

стар. 3



Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 17.01.2000 г., а 01.00. Тыраж 5000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная Зорка» ВПП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ 1613

## Міні-навІнкі

### Івонка перадае паўнамоцтвы Лінгу



Мудры і дастойны сур'ёзнага палітыка крок зрабіла напярэдадні новага году Прэзыдэнт БНР Івонка Сурвіла. Яна дабраахвотна пайшла ў адстаўку і прызначыла сваім пераемнікам прэм'ер-міністра Язэпа Лінга. Скончылася эра вялікага палітыка!
Сваё рашэньне яна патлумачыла наступным чынам: «Шаноўнае спадарства! Я верна служыла ідэі Адраджэньня Бацькаўшчыны і ўмацаваньня пазыцыяў БНР на міжнароднай арэне. І зараз я хачу папрасіць у Вас прабачэньня. На самой справе БНР не існавала з 1918 году. Я перапрашаю за ўсе цацанкі-абяцанкі. Але я спадзяюся, што Вы мне гэта ўсё даруеце». Пасьля гэтага экс-прэзыдэнт БНР І.Сурвіла падпісала дэкрэт аб пажыцьцёвай недатыкальнасьці асобы экс-прэзыдэнта БНР. Потым спадарыня Сурвіла адбыла зь неафіцыйным візытам на Тыбет.

### Маршам па палітычным авантурызме

14 лютага стаў чорным днём нашага палітычнага календару. Прыпаркі з «Маладога Фронту»ператварылі дзень сьв.Валенціна ў мэсу палітычнага экстрэмізму. Вы ўжо, напэўна, здагадаліся, што гаворка ідзе пра традыцыйны марш «Беларусь у Эўропу», што кожны год у гэты дзень праводзіцца на вуліцах сталіцы і заканчваецца прымітыўнай раздачай пэтыцыяў.
Гэты год ня стаў выключэньнем. 14.02.2000 браткі з МФ зноў зьбіраюцца ладзіць сваю сьвістапляску, каб традыцыйна абысьці эўрапейскія амбасады і ўручыць іх супрацоўнікам пэтыцыі з патрабаваньнем прыняць Беларусь у склад Эўропы. Прыйшоў час сарваць вакханалію атлянтызму і адпаведна адстаяць курс на шматавектарнасьць нашай зьнешняй палітыкі.
*Навінкі* выступоць зь ініцыятывай прыняць Беларусь у Азію! 14 лютага прыхільнікі нашай газэты зробяць марш-кідок па амбасадах азіяцкіх краінаў і ў кожнай пададуць пэтыцыю прыняць Бларусь у ганаровую сям'ю азіяцкіх народаў. Мы – гордая нацыя, што вышла з кактэйлю індаэўрапейскай групы народаў, – павінны трымацца сваіх арыйскіх каранёў, а не каго папала.

### Прэзыдэнт на арэне цырку



Поўным абломам для дзетак скончылася навагодняя ўрачыстая елка ў менскім дзяржаўным цырку. Напярэдадні ўсе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі раструбілі прыемную навіну пра тое, што на сьвята наведаецца сам Прэзыдэнт. Прэзыдэнт у цырку!!! Бязьмежная дзіцячая фантазія адразу стала ўяўляць, што кіраўнік дзяржавы зьбіраецца адкалоць нейкі супэрфокус: праглоціць шпагу, дазволіць сябе распілаваць або, на худы канец, станчыць на канаце. Нічога гэтага зразумела не было. А.Г Лукашэнка проста адсядзеў імпрэзу, як і ўсе гледачы. Дзеці ад крыўды аж плакалі.

# Калігула тут не прычым

## *Чаму БТ забараніла паказ культавай парнухі*

Нядобрыя водгукі сярод простага люду атрымала кіраўніцтва БТ пасьля таго, як абарвала трансляцыю эратычнага блокбастэру «Калігула». Вы ўяўляеце, які аблом чакаў сотні тысячаў сямейных пар, якія выбраліся на госьці, прыхапіўшы з сабой традыцыйную бутэльку гарэлкі ды пару-тройку прэзэрватываў, калі замест жаданай парнухі яны ўбачылі «сьняжок».
Заклапочаныя апазыцыйныя галовы адразу сталі крычаць, што Прэзыдэнт бачыць паралелю паміж сабой і тыраніяй Калігулы, а сэксуальныя вычварэньні – гэта так, фонавая дробязь. Якая лажа! Дзе вы бачылі ў нашага прэзыдэнта тогу, рабоў і кабылу-дэпутата ў Сэнаце?! Канец, нашага бацьку й з жанчынай-та ніхто ня бачыў! А ці можна прымаць усур'ёз словы Калігулы «Я пэратрахаў увесь Сэнат!» і спэкулятыўна экстрапаляваць іх на беларускую рэчаіснасьць? Вядома ж, нашыя грамадзяне пасьля прагляду гэтай скандальнай кінастужкі занадта літаральна зразумелі б падобныя словы, але ня трэба забывацца і пра несвядомыя народны давер Прэзыдэнту.
Хутчэй за ўсё забарона «Калігулы» перасьледавала глыбока мэркантыльныя мэты. Справа ў тым, што калі б чыноўнікі БТ пачалі крамсаць сваімі цэнзарскімі нажніцамі фільм, то ён скараціўся б да працягласьці «Спакойнай ночы, малышы!», ды й той бяз гуку. Было падлічана, што такая праца зойме дасуг як мінімум 100 супрацоўнікаў, якія атрымліваюць зусім нямалыя грошы. Калі ж у пікантных момантах пускаць славуты ролік «Рэкляма ў Беларусі», то прыйдзецца забашляць расейскім тэлевізійным карпарацыям столькі ж, колькі Беларусь плоціць за нафту й газ за год.
Разумныя галовы на Макаёнка-9 скумекалі проста й геніяльна: «Няма фільму – няма праблемы». У выніку беларускі аматар «клубнічкі» атрымаў на экраны сьняжок, а чыноўнікі БТ – здаровы сон.
Вось так і бывае: расейцам – голыя бабы, а нам – х... маржовы ●

**Чычаліна**

«Я ператрахаў увесь рымскі Сэнат!» – заяўляе Калігула ў запале сэксуальнага жаданьня. Сэнат галасуе за ўхваленьне ўнесенай прапановы імпэратара.





**Я АБІРАЮ БЯСЬПЕЧНЫ СЭКС!**

## ВяртАючыся да напісАнага

# Мітынгіт не вылечны?

## *Гэтак лічылася да нядаўняга часу.*

Мітынгіт (альбо па народнаму адмаражэньне) лічыцца адным з самых цяжкіх захворваньняў, якое перадаецца ад бацькі да сына, ад маці да дачкі, з пакаленьня ў пакаленьне. Да нядаўняга часу лічылася, што вылечыць яго немагчыма.
Можна заказдзіраваць чалавека на паўгады, год, але потым ён усяроўна зрываецца і пачынае хадзіць на мітынгі, дэманстрацыі, пікеты – хвароба прагрэсуе. Да таго ж наносіцца вялікая шкода псыхіцы. Нельга вылечыць такую цяжкую хваробу як мітынгізм адным масажам ці палкатэрапіяй – нават пастаноўка дыягназу займае больш часу. Усё, што прапануецца зараз для лячэньня мітынгізму – гэта стацыянарнае лячэньне на працягу 3-15 сутак у залежнасьці ад цяжкасьці стану хворага. Але яно не дае належных вынікаў, як і ўсе прымусовыя лячэньні. Мітынгізм – гэта хвароба новага часу, якая патрабуе новага падыходу ў лячэньні, выкарыстаньне новых лекаў. Міжнародны канцэрн «PRYLUK ltd» распрацаваў сапраўдныя лекі, зарэгістраваныя ў Рэспубліцы Беларусь як лекавы прэпарат, які сапраўды лечыць мітынгізм, а не прыглушае мітынговую залежнасьць на нейкі час.

**Штохвіліну ў сьвеце з дапамогай «PRYLUK-15» ад мітынгіту вылечваецца 21 чалавек**

Завецца новы прэпарат «PRYLUK-15», і дзейнічае ён на малекулярным узроўні, прыгнятаючы мітынговы цэнтар і пазбаўляючы хваравітай цягі да мітынгаў. «PRYLUK-15» лечыць мітынгізм на любой стадыі. Праўда, чым мацнейшая хвароба, тым даўжэйшым павінен быць курс лячэньня.
Акрамя таго, што «PRYLUK-15» падаўляе цягу да мітынгаў, ён выводзіць з арганізму таксіны, узнаўляе нэрвовую сыстэму, лечыць язву, выкліканую шматлікімі галадоўкамі.
Улічваючы той факт, што нямногія мітынгоўшчыкі жадаюць лячыцца самі – баяцца ломак ці, наогул, лічаць сябе здаровымі, «PRYLUK-15» распрацаваны гэткім чынам, што яго можна даваць БЯЗЬ ВЕДАМА ХВОРАГА.
Трэба ўсяго толькі дадаваць прэпарат у ежу, і чалавек будзе лячыцца, сам таго ня ведаючы.Назіраньні за тымі, хто прымаў «PRYLUK-15», паказалі, што 80-90% хворых вылечваліся падчас першага курсу лячэньня, астатнія – падчас паўторнага.
Вось усяго толькі дзьве гісторыі з соцень пісьмаў, якія прыходзяць ад тых, хто прымаў «PRYLUK-15».
**Сяргей Навумчык**, *г.Нью-Ёрк, таксіст, жанаты.*
Спачатку хадзіў, як усе – па сьвятах і выходных. Паступова дайшоў да таго, што не было і дня бязь пікету. Пачаў дрэнна арыентавацца ў палітычным жыцьці краіны, згубіў каардынацыю руху, у сувязі з гэтым вымушаны быў пайсьці з працы, яшчэ больш пачаў мітынгаваць. Параіўшыся са знаёмымі, пачаў прымаць «PRYLUK-15». Празь месяц ужо не было цягі да мітынгаў, узнавіўся на працы, наладзіліся адносіны ў сям'і.
**Ганна Шарэцкая**, *г.Вільня, замужам, мае дваіх дзяцей.*
На пачатку 90-х муж зарэгістраваў сваю партыю, зьявіліся вялікія грошы, новыя сябры. Мітынгаваў на сэсіях, зь сябрамі, ад маіх папрокаў адмахваўся, што ў любы момант кіне, сілы волі хопіць. Але час ішоў, хадзіў на пікеты ўжо кожны дзень, з-за гэтага прапусьціў некалькі выгодных палітычных зьдзелак. Залез у даўгі, сябры пацікху адвярнуліся. Сам лячыцца не хацеў – лічыў гэта ніжэй за свой гонар. Я незаўважна пачала дадаваць «PRYLUK-15» у ежу. Праз тры тыдні ўжо амаль не мітынгаваў, праз два месяцы кінуў зусім. Узнавіў партыю, разьвіўся з пазыкамі, пачаў замяжу. Я нічога не казала. Сямён дагэтуль лічыць, што мітынгаваць кінуў сам ●

**Купон-заяўка**

Я,..............................................., прашу даслаць мне пробны пакунак «PRYLUK-15».
Адрас і тэлефон:.................................................
***Набываючы «PRYLUK-15», Вы раз і назаўсёды вернеце шчасьце і радасьць у свой дом!***
Запоўніце гэты купон друкаванымі літарамі і адашліце па адрасу: п/с 33, 220134 Менск

## Новая праблема 2000

Какафонія страху і панікі, якая ахапіла чалавецтва напярэдадні кампутарных пэртурбацыяў, нечакана зьмянілася масавай эўфарыяй. Як наступства праблемы 2000 дурань-кампутар пачаў ліхаманкава пераводзіць шалёныя грошы на прыватныя банкаўскія рахункі. Хто ведае можа быць Вы разам зь Білам Гейтсам і султанам Брунэю складаеце трыо самых новых рускіх людзей плянэты. Таму пасьпяшыце ў ашчадны банк і асьцярожна праверце свой рахунак. Чаму асьцярожна? Таму што, хто ведае зь якога конта чокнутае ЭВМ пераявла Вам грошы. Уяўляеце, што будзе, калі высьветліцца, што гэтае лавэ з асабістага рахунку Ельцына ў банку оф Нью-Ёрк. Вас жа прыстукнуць, калі не фэсбэшнікі, дык інтэрполаўцы пераедуць вас машынай. Другая ўмова – памятайце этычныя запаветы падпольнага міліянэра Карэйкі. Напрыклад, студэнцкую тусоўку ліхаманіць чутка пра нейкага філёляга – ахвяру кампутарных бзікаў. Раніцай 5 студзеня ён забег у разьліковы цэнтар БДУ, каб зьняць сацыяльную стыпендыю, і быў прыемна ўражаны, што яна цяпер эквівалентна нашаму дзяржаўнаму доўгу Газпрому за нафту і газ. Задаволены і нічога не прасёкшы студэнт расьпіхаў пухлыя пачкі банкнотаў па кішэнях і пагрузіўся на тыдзень у п'яны куцёж. Сёньня ён з хворай галавой ходзіць па брудных калідорах інтэрнату, напружваючы мазгі: як, з кім і куды ён спусьціў квартальны бюджэт краіны. Не паўтарайце такіх грубых праколаў. Сустрэнемся на Багамах!

# Навагоднія рэкорды




Біты месяц уся беларуская прэса ў захлёб распавядала пра новага рэкардсмэна кнігі Гінэса Вячаслава Хараненку. Гэты небарака замест таго, каб бухаць шампань у навагоднюю ноч, цэлыя суткі тузаў у гару бочку з-пад салетры. А ўсе потым дзівяцца: а-я-яй, падняў некалькі соцень тон. Знайшлі цуд! Такіх рэкордаў у Беларусі пруд прудзі. Вось наш сусед па пляцоўцы дзядзька Антось, калі працаваў на каўбасным заводзе, перацягаў за гадзіну перакуру 230 тон (!) каўбасных вырабаў.

Найбольш абразіла, што сапраўднае дасягненьне, якое адбылося ў той сама час з 31 на 1-е, было незаўважана СМІ. Дарма. Але ўсё па парадку.

Усім вядома, што ў навагоднюю ноч праходзяць традыцыйныя спаборніцтвы па падыманьні стаканоў. Колькі спартоўцаў-аматараў ужо напрацягу дзясяткаў гадоў марыць заняць першае месца. Дык вось, групай валанцёраў у рэдакцыі газэты *Навінкі* быў пастаўлены супэррэкорд, які быў афіцыйна зафіксаваны спэцыяльнай камісіяй. З 12.00 31.01.99 да 12.00 01.01.00 было паднята роўна па 8640 стаканоў. Агульная колькасьць паднятага сьпіртнога неверагодная: 1728 літраў гарэлкі!

Новы сусьветны рэкорд па падняцьцю гарэлкі ў навагоднюю ноч проста ня мае прэцэдэнтаў ня толькі ў нашай краіне, але й ва ўсім сьвеце. Папярэднія высілкі належылі расейцу Антону Сьвірыдаву, які ў навагоднюю ноч падняў толькі 4 літры самагонкі, пасьля чаго на 4100 граме ён проста сышоў з дыстанцыі. Розьніца праўда ў тым, што ён выпіваў кожны стакан бухла.

Такім чынам, беларусы ўзялі яшчэ адну планку недасягальных рэкардсмэнаў ●

**Арсень Скаруліс**

## Чуткі

### Беларусы ў Чачэніі?

«Беларусы ваюць побач з чачэнцамі!» – аж раве ад радасьці беларуская «вольная» 4-ая ўлада. У непадрыхтаванага чытача валасы на галаве стаюць дыбам. «Як?! Ці ня ўжо беларусы рэжуць саюзных расейцаў?» Сьпяшаемся заспакоіць цябе, чытач. Усё зноў пастаўлена з ног на галаву.

Як высьветлілася, факты насамрэч не супярэчаць рэальнасьці. Беларусы сапраўды ваююць разам з чачэнцамі. Аднак пра што маўчыць *Наша Ніва* і Ко? А пра тое, што за ЯКІХ чачэнцаў ліюць сваю кровушку нашыя землякі. Бядром да бядра з кунакамі Бяслана Гантэмірава беларускія валанцёры наводзяць у Чачэніі канстытуцыйны парадак. Ад Гудэрмеса да Сямашак гуляе слава пра крывавыя масакры беларускага экспэдыцыйнага міратворчага корпусу.

Няма літасьці да тэрарыстаў у ўнукаў дзеда Талаша. Уваходзячы ў аул, усім тэрарыстам прапануецца неадкладна здацца, хаця ўсім вядома, што беларусы нікога ў палон не бяруць. На зборы даецца роўна столькі, пакуль не дагарыць запалка ў руках адважнага прапаршчыка Юры Вашчанкі, камандзіра беларускага корпусу валанцёраў. Потым страпцівы кішлак накрываюць агнём ракетнай сыстэмы «Бел-град». Уся антытэрарыстычная апэрацыя займае тры-чатыры хвіліны. Пры чым на тых участках, дзе арудуюць беларусы, не зафіксавана ніводнага бежанца. Таму мы можам ганарыцца сваімі талерантнымі землякамі.

# Два лёсы, дзьве трагедыі

Надышла пара сэзонных набораў у войска, калі перад прызыўнікам чарговы раз узьнікае пытаньне: ісьці або ня йсьці? Што ж, вырашайце самі...



*Мэдкамісія: каму быць, каму ня быць, каму ў арміі служыць, каму век сарціры драіць, а каму спакойна жыць.*

## Касіць

**М**ікола З. яшчэ ў падлеткавым узросьце з захапленьнем слухаў апавяданьні дваровых аўтарытэтаў аб тым, як трэба касіць ад войска. І таму, калі падышоў яго час уліцца ў шэрагі абаронцаў Айчыны, ён ні на хвіліну не сумняваўся ў сваіх далейшых дзеяньнях. Аднак ні страсеньне мозгу, ні батарэйка з электроннага гадзіньніка, пакладзеная пад язык, каб атрымалася кардыяграма стэнакардычнага рахіта, не ўратавалі Міколу ад прызыву. У арміі хлопец адлыньваў ад службы, у строі заўсёды ішоў не ў нагу, ня піў зь сябрамі адэкалён, а калі яго папрасілі зьбегаць у самаволку па гарэлку, то бунтар адкусіў «дзеду» вуха. Карацей кажучы, Мікола так і ня здолеў уліцца ў армейскі калектыў. Усё скончылася тым, што аднойчы салдат зьбег з часткі.

Каб легалізавацца на «гражданцы», Мікола ўладкаваўся вартаўніком на могілкі, бо нідзе ў іншым месцы без дакумэнтаў яго на працу ня бралі. І тут у хлопца пачаліся сэксуальныя праблемы: ніводная паважная дзяўчына не хацела «хадзіць» з могілкавым вартаўніком, а на прастытутак сьціплага заробку не хапала. Але дэзэртыр знайшоў выйсьце. Ён стаў запрашаць да сябе ў бытоўку патасканых могілкавых жабрачак, гвалтаваў іх у спэцыяльна падрыхтаванай для гэтых справаў труне, а потым разьлічваўся скарынкай чэрствага хлебу. Усё было б добра, калі б паміж бамжыхамі не распаўсюдзіліся чуткі пра вартаўніка-маньяка і яны не пачалі абыходзіць бокам могілкі. Тады Міколу нічога не засталося, як адкопваць уначы нябожчыц і ўступаць зь імі ў полавыя стасункі. Асабліва падабалася вычварэнцу забаўляцца з трупам трохмесячная дзяўчынкі, якую ён пяшчотна клікаў «мая дачушка». Канец начным оргіям паклаў дырэктар могілак, які здаў падазронага вартаўніка міліцыі. У ходзе сьледзтва высьветлілася, што Мікола трахаў ня толькі мерцьвякоў, але яшчэ згвалціў і могілкавага нямога сабаку Му-му, што было прынята судом за абставіны, якія абцяжарваюць віну.

Вось што здарылася з чалавекам, які не хацеў чэсна служыць у войску. Спадзяюся, што нашыя маладыя «пацыфісты» зробяць з гэтай сумнай гісторыі належныя высновы.

## Ісьці

***З*** самога дзяцінства Мікола З. марыў аб тым, каб стаць вайскоўцам. Самай ягонай любімай цацкай быў пісталет, а любімай гульнёй – «Мінскі кацёл», калі хлопчык вешаў палонных салдацікаў-фашыстаў на цацачнай шыбеніцы. У школе на ўроках вайсковай падрыхтоўкі Мікола заўсёды атрымліваў толькі выдатныя адзнакі і навучыўся разьбіраць аўтамат Калашнікава да такога стану, што нават сам ваенрук потым ня мог яго сабраць. На жаль, Мікола па стану здароўя не паступіў у вайсковую вучэльню, але настырны хлопец пераканаў ваенкома ў сваёй неабходнасьці для беларускай арміі. Маладога салдата накіравалі ў будаўнічы батальён у Печы, дзе яму прыйшлося служыць разам з былымі непаўналетнімі злачынцамі і алігафрэнамі. Тут Мікола адчуў на сабе ўсю бесчалавечнасьць ваеннай машыны, якая перамельвае чалавека і робіць зь яго бяздушнага робата. Юнак быў вымушаны чысьціць туалет зубной шчоткай, засьцілаць ложкі дзядам і вылізваць боты прапаршчыку. Але салдат, ня гледзячы на пабітую «фанэру», стойка выносіў усе цяжкасьці службы Радзіме і ня скардзіўся афіцэрам, пакуль адзін з разумоваадсталых дзядоў не пачаў прымушаць хлопца есьці ягоныя экскрэмэнты. Такога зьдзеку ня мог зьнесьці нават талерантны Мікола.

Усё скончылася тым, што хлопец захапіў у каравулцы аўтамат і пастраляў усіх сваіх саслужыўцаў разам з прапаршчыкам, калі тыя гулялі ў «мандавошку» на Міколаву пасылку. Але пасьля гэтага акту помсты Печанскі Рэмба не спыніўся. З гранатамётам у адной руцэ і кулямётам ДШК у другой, ён накіраваўся да штабу і ўчыніў там паказальныя стэльбы. Калі ў частку прыбыў спэцназ, амапаўцы знайшлі мсьціўца павешаным над прыбіральняй. Побач была запіска: «Выбачайце мяне, калі ласка, я не хацеў ахвяраў. Але чаму за сьняданьнем яны зноўку забралі мой кампот? Мікола З.»

Пры такіх умовах, якія існуюць у нашым войску, ісьці служыць – гэта добраахвотнае самагубства. Чаму да гэтага часу наша грамадзтва аддае юнакоў на спажыву мілітарысцкаму Молаху? Калі спыніцца гэтае жудаснае ахвярапрынашэньне? ●

**Алесь Брудзіла (малодшы)**

## Узыйдзі на неба

Шаноўны чытач! Прапануем табе гульню, у якую вы можаце гуляць удваіх, утраіх і г.д. (максымум дванаццаць гульцоў). Сэнс гульні – хутчэй патрапіць на неба. Для гульні вам спатрэбяцца фішкі па колькасьці гульцоў, а таксама кубік шасьцігранны. Карыстайцеся таксама Тлумачэньнямі на стар.5. З Богам!

### Беззаганнае пачацьце

(розыгрыш права першага ходу)

# Contra secti

## Дэкрэт імпэратара Нэрона

Дэкрэт аб далейшых захадах па барацьбе з таталітарнымі сэктамі скіраваны на аздараўленьне маральнай сытуацыі ў нашым позьнерабаўладальніцкім грамадстве.

Апошнім часам на фоне працэсаў маральнага клімаксу і духоўнай спустошанасьці ў некаторых колах грамадства назіраецца нездаровая зацікаўленасьць містыкай, акультнымі навукамі, усходнімі біблейскімі культамі. Прарокі новых ісьцінаў скажаюць уяўленьні аб жыцьцёвых каштоўнасьцях, ствараюць атмасфэру абыякавасьці да бацькоўскай веры – культаў Юпіцера і Мітры, спрыяючы тым самым дэстабілізацыі палітычнай і маральнай сытуацыі ў імпэрыі.

Сярод прайдзісьветаў, якія выдаюць сябе за наваяўленых прарокаў, найбольш сацыяльна небясьпечнай зьяўляецца таталітарная сэкта хрысьціянаў, місіянэры якой прасочваюцца ў наш край з Усходу, прыкрываючыся шыльдамі дабрачынных і культурных юдзейскіх арганізацыяў.

Апалягеты сэктанцтва – цудоўныя дэмагогі, якія дасканала валодаюць мэтодыкай прамываньня мазгоў рымскіх грамадзянаў. Яны прапаведуюць сыход ад рэальнасьці, ад актыўнага сацыяльна-грамадзкага жыцьця ў г.зв.абшчыны, што павінна згодна іхным дагматам кампэнсаваць страданьні ў гэтым жыцьці. Пад месца шабашаў сваіх абшчынаў яны абралі катакомбы, дзе адкрыта паносяцца багі рымскага пантэону – асновы нашай цывілізацыі. Маной і махлярствам хрысьціяне прыцягваюць у сэкту людзей, хаваючы яе сапраўдны таталітарны характар, мэты і формы сваёй дэструктыўнай арганізацыі.

Нягледзячы на прапаганду вульгарнай роўнасьці, сэктанты поўнасьцю маніпулююцца вузкай купкай апосталаў. Хто яны, гэтыя лаўцы людзкіх душ, каму ж давяраюць свой лёс наіўныя грамадзяне? Як правіла, гэта альбо звычайныя авантурысты, што прамянялі месца сваёй працы зь невялікім, але стабільным заробкам на антысацыяльную дзейнасьць, альбо проста беспрацоўныя, якія ня маюць ані сям'і, ані сталай прапіскі. Г.зв. апостал Пётар быў звольнены з рыбгасу; правараваўшыся, ап. Якуб пакінуў свой пост у мытным камітэце. Ахвяры хрысьціянскіх дагматаў успрымаюць навакольны сьвет абыякава і нават прымаюць сьмерць павольна, з усьмешкай на твары і зь імем Хрыстовым на вуснах.

**Вось такі лёс угатавалі рымскія паганцы шчырым хрысьціянскім вернікам**



Ня дзіўна, што сьвядомыя грамадзяне, перш за ўсё бацькі і сумленныя рабаўладальнікі – тыя, хто дае людзям працоўныя месцы і чыя чэлядзь стала першай ахвярай місіянэраў, – патрабуюць ад дзяржавы абараніць грамадства ад самазваных Збавіцеляў. Былі выпадкі, калі абураныя бязьдзейнасьцю ўладаў людзі самі мабілізаваліся на барацьбу, арганізуючы пагромы месцаў сходаў таталітарных сэктантаў. Нас ня могуць не хваляваць гэткія факты перагібаў на месцах.

Таму Мы, Імпэратар усяго Рыму, жадаем надаць барацьбе з сэктантамі прававы фундамэнт. Цяпер адпаведна закону хрысьціянскія сэктанты будуць арыштоўвацца і накіроўвацца на перавыхаваньне ў спэцыяльныя ўстановы – у вальеры або на арэны цырку. Тут яны адпаведна літары закону будуць гуманна кінутыя на абед зьвярам. Заяўляем, што й надалей Мы будзем стаяць на пазыцыях абароны традыцыйнай веры і не дапусьцім эрозіі маральных асноваў нашага соцыюму.

Слава Юпіцеру!●

**Імпэратар Нэрон**
Рым, 49 г. пасьля Н.Х.

## Новая гістарычная знаходка чарговы раз неабвержна даказвае гістарычнасьць асобы Хрыста

# Апошняе інтэрвію

***На старажытнай яўрэйскай гравюры: папарацы Саламон Пульша перашкаджае сваімі пытаньнямі Хрысту адкупіць грахі сьвету***



Нягледзячы, што з часоў пакараньня піянэра хрысьціянства мінула 2000 гадоў, ягоная трагедыя і сёньня шчыкочыць нэрвы чалавецтву. Яшчэ адзін штрых у гісторыю аб муках Збавіцеля ўнёс архіварыюс Тэль-Авіўскага Музэю даўніны. Прапануем увазе чытачоў апошняе інтэрвію, што даў на крыжы Ісус Хрыстос карэспандэнту газэты *Юдзейская Маладзёжная* Саламону Пульшу.

**С.П.: Паважаны Ісус Язэпавіч, некалькі словаў наконт ходу і выніку працэсу, што нядаўна завершыўся над Вамі.**

**І.Х:** Відавочна, што гэта быў палітычны працэс. Адміністрацыя Юдзеі ў асобе пракуратара Понція Пілата і цара Ірада сама зьневажае асноўны закон – Закон Божы, адкрыта топчачы правы і свабоды грамадзянаў. Цар Ірад нелегітымна захапіў вышэйшую ўладу. Ягоныя канстытуцыйныя паўнамоцтвы закончыліся яшчэ ў першым годзе пасьля майго нараджэньня. Натуральна, згодна голасу звыш я выставіў сваю кандыдатуру на пост Мэсіі. Каб перашкодзіць надыходу новага нацыянальнага лідэра, ужо былы цар Ірад высмактаў з паталка фіктыўныя падставы, каб абвінаваціць мяне ў сэрыі эканамічных злачынстваў.

**С.П.: Калі ласка, пералічыце асноўныя пункты справы.**

**І.Х.:** Тут цэлы набор юрыдычнай бязглузьдзіцы. Неліцэнзаванае аздараўленьне хворых, махлярства з цудамі, незаконны выраб сьпіртных напояў, хуліганства ў храме і г.д. Галоўны пункт абвінавачаньня – быццам нявернутыя крэдыты ад валхвоў. Аднак сьледзтва зайшло ў тупік. Амаль усе абвінавачаньні былі зьнятыя. Але ж вы ведаеце пад чыю дудку танчыць пракуратар. Пад націскам Ірада пракуратару нічога не заставалася, каб прышыць мне артыкул за прысваеньне службовых паўнамоцтваў цара Юдзеі і спробу дзяржаўнага перавароту. Хлусьня! Я не вінаваты!

**С.П.: Вы не пабаяліся ўзьняць голас супраць злачыннага рэжыму, нават нягледзячы на палітычны кіднэпінг і жорсткія рэпрэсіі?**

**І.Х.:** Пытаньне палітычнага перасьледу турбуе ўсё грамадства. На нашых вачах зьнік апазыцыйны актывіст Ян Хрысьціцель, жорстка былі зьбітыя немаўляты з маладога фронту Юдзеі ў Бэтлееме... І гэта ў той час, калі такія крымінальныя аўтарытэты як Варава падпадаюць пад амністыю. Ганьба рэжыму!

**С.П.: Выкажыце сваю думку наконт зьнешнепалітычнага курсу Ірада.**

**І.Х.:** Нават вісячы на крыжу, я не магу маўчаць. Цар Ірад прадаў Юдзею Рыму, разьлічваючы заняць прастол прыстарэлага імпэратара Аўгуста. Зразумела, што яго правялі. Інтэграцыя з Рымам фактычна значыць страту сувэрэнітэту Юдзеі.

**С.П : Дзякуй за інтэрвію. На разьвітаньне хочацца пажадаць Вам усяго найлепшага!**●

Паводле матэрыялаў газэты *Юдзейская Маладзёжная*, №131 ад 12.04.5233 г.

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10

# Дзёньнік Ёшуа Га-Ношры,

## вучня сярэдняй сынагогі №3 г.Назарэту.

ІУДА-ПОЦ!!!

Месяц кісан 10 г. ад НХ.

| Дни и числа | Предмет | Домашнее задание | Оценка | Подпись учителя |
|---|---|---|---|---|
| Понедельник 2 | Фіз-ра | крос на галгофу | | |
| | НВП | разборка і збор пращы | | |
| | Маніхеіствазнаўства | | | |
| | Геаграфія | сектар газа, галанскія высоты (ведаць дзе і паказаць на карце) | | |
| Вторник 3 | Кабала | О84Ж ДХ | | |
| | Алхімія | Зрабіць з вады віно (кагор) | | |
| | Рым. яз | Ну Jam Ѵіvіт | | |
| | Рым. літ. | ЭнеЧду Вергілія напамяць | | |
| Среда 4 | Ядзірімфізіка | | II | |
| | Гісторыя пасьлягапінага часу | | | |
| | Асновы фарысейства | | | |

Еў сьвініну на ўроку фарысейства.
Марыя М.
Прыйсьці з Айцом у сынагогу. [Hebrew signature]

Месяц кісан 10 г. ад НХ

| Дни и числа | Предмет | Домашнее задание | Оценка | Подпись учителя |
|---|---|---|---|---|
| Четверг 5 | Родная мова | [Hebrew] | 2 | [Hebrew] |
| | Алгебра | падзяліць 1 хлеб паміж 5000 людзей | | |
| | Мед. падрыхтоўка | | | |
| Пятница 6 | ІЗО | лепка з пластыліну залатога цельца | | |
| | Сьпевы | Хаванагіла | | |
| | Касмагонія | | | |
| Суббота 7 | Труды | выраб крыжоў | | |
| | Труды | | 2 | |
| | Труды | | | |
| | Труды | | | |
| | Працаваў у суботу. | | неуд | [Hebrew] |

Подпись классного руководителя [Hebrew] (Каяфа)
Подпись родителей +

## Гульня

### Тлумачэньні

1. Нараджэньне Ісуса. На 33 хады наперад.
2. Забіцьцё немаўлятаў Ірадам. Пачніце гульню спачатку.
3. Эміграцыя сям'і Ісуса ў Эгіпет. Афармленьне палітычнага прытулку. Пропуск 1 ходу.
4. Хрышчэньне Ісуса Янкам Купалам. 3 хады наперад.
5. Спакушэньне ў пустэльні. Прапусьці 40 хадоў.
6. Сустрэча з вучнямі. Пропуск ходу.
7. Нагорная пропаведзь. Прачытай тры разы «Ойча наш».
8. Аздараўленьне хворых. Фізкультхвілінка.
9. Хаджэньне па вадзе. Разьліваем запівон.
10. Пératварэньне вады ў віно. Разьліваем і выпіваем. Дадатковы ход.
11. Кармленьне народу пяцьцю хлябамі й дзьвюма рыбамі. Закусваем і прапускаем ход.
12. Уваход у Ерусалім. Дадатковы ход.
13. Здрада Юды. Пацалуйце суседа.
14. Суд Понція Пілата. Прапускаеце ўсіх наперад.
15. Бічаваньне. Саечку за спалох.
16. Укрыжаваньне. Пачні гульню спачатку.
17. Уваскрасеньне. 2 хады наперад.

Каб трапіць у рай, трэба набраць дакладную колькасьць ачкоў.



Рай

17

16

# ХУТКА!

## *Новыя кампутарна-генэтычныя тэхналёгіі даводзяць: другое прышэсьце не за гарамі!*



**Узор ДНК, які ўтрымлівае турынскі саван, дазволіць правесьці другое беззаганнае пачацьце Хрыста**

«Мы жывем у недасканалым сьвеце, што проста расьпіраецца ад граху. Паўсюль прошукі д'ябла: войны, гвалт, карупцыя, парнаграфія... Гэты шэраг можна працягваць і працягваць. Таму мы ня можам сядзець як клушы і, склаўшы рукі, чакаць прыходу Хрыста. Мы павінны наблізіць ягоны надыход. Выратаваньне тапельцаў – справа рук саміх тапельцаў!..»

Так пачынаецца старонка ў сусьветнай павуціне, аўтары якой патрабуюць як мага хутчэй кланіраваць Хрыста. Зрабіць гэта, як сьцьвярджаюць вэбсайтчыкі, на сучасным этапе разьвіцьця НТР – раз плюнуць. У турынскім храме Сан-Сіро знаходзіцца плашчаніца, у якую паводле паданьня быў завернуты Ісус пасьля экзэкуцыі на Галгофе. Эпігоны каталіцызму даюць зуб, што на саване захаваліся сьляды поту і крывападцёкаў Ісуса. Іншымі словамі, на структуры плашчаніцы прысутнічаюць ДНК і храмасомы Хрыста. Застаецца паклікаць яйцагаловых батанікаў, выдзяліць гэтыя храмасомы і шляхам маніпуляцыі над клеткай стварыць стопрацэнтовую копію Назарэя.

Цяжка пераацаніць рэзультаты, якія можа прынесьці гэты экспэрымэнт. Калі Вам спатрэбіцца Божая парада, ня трэба будзе бегчы да мулы. Дастаткова набраць хатні тэлефон Ісуса і пакінуць на аўтаадказчыку паведамленьне: «Хай, Бог. Гэта тэлефануе... Я тут троху перабраў з грахамі. Як мне ўзяць талёнчык на прыём? Пажадана, у другую палову дня. Калі ласка, перататэлефануй. Бай!»

У выпадку посьпеху на Зямлі была б асоба, чый маральна-прававы аўтарытэт быў бы абсалютным. Хрыстос засандаліў бы ўсім сатаністам так, што яны забыліся б на ймя свайго князя цемры.

Толькі Хрысту пад сілу адным махам вырашыць харчовую праблему ў Беларусі. Хто-хто, а сын селяніна ведае, як накарміць народ, калі з заплянаваных 8 млн.тон збожжа было з горам на палову сабрана толькі 4.

А колькі можна было б накатаць мэмуараў! «Рэпартаж з крыжа». «Праўда пра Понція Пілата». «Як гэта было»... Яны б разышліся на ўра, расставіўшы, нарэшце, усе кропкі над і.

І ўжо дакладна б даў наганяю ўсім «сьведкам Яговы» ці мармонам, выклікаў бы «на кавёр» папу Рымскага, управіў бы мозгі Алексію.

А каб Хрысту не было сумна, то заадно можна кланіраваць і ўвесь сойм сьвятых (дзякуй Богу, мошчаў з ДНК хапае). Тады вернецца да нас на Зямлю рай безь ніякіх там армагедонаў, гэтак недарэчна згублены лапухом Адамам. Амін ●

**Пятро Кіфа,**
апостал



# Варашылаўскі стралок-2

*Удалая знаходка сюжэту забясьпечыла фільму выхад на шырокія экраны*



Кадар з другой сэрыі «Стралка». Дзед Міхалыч сьцеліць унучкінага хахаля.

Неверагодны рэзананс, параўнальны толькі што з посьпехам новага Бонду, атрымала экранізацыя вядомай аповесьці Аркадзія Гайдара «Варашылаўскі стралок». Падчас дэманстрацыі фільму па Маскве пракацілася хваля цяжкіх злачынстваў: 50 заказных забойстваў, 300 цялесных пашкоджаньняў і 148 явак з павіннай па артыкуле «Згвалтаваньне». Дайшло да таго, што маскоўскія ўлады забаранілі наведваць кінатэатры пэнсіянэрам пасьля 60 год.

Тым часам на студыі НТВ-профіт поўным ходам завяршаецца мантаж другой часткі нашумеўшага блокбастэру. Атрымаўшы ад пракату першай сэрыі даход, супастаўны з гадавым бюджэтам Саюзу Беларусі і Расеі, варацілы кінабізнэсу вырашылі працягнуць эпапею папулярнага героя-баевіка.

У новай частцы ўлюбёнец гледачоў дзед-тэрмінатар Міхалыч трапляе ў яшчэ больш ліха закручаную гісторыю. Ягоная блудлівая ўнучка, адчуўшы смак да гулянак з багацеямі, выходзіць замуж за каўкаскага міліянэра-гандляра хурмы. Той, як водзіцца, імітуе выкраданьне нявесты і гэтым выклікае на сваю задніцу вялікія праблемы.

Стары снайпэр, які пасьля папярэдняга мачылава пайшоў у запой, раптам падымае галаву і, здаўшы бутэлькі, выпраўляецца ратаваць унучку на Паўночны Каўказ. Куды там ціхаму студэнту Шурыку з клясычнай эпапеі пра каўкаскую палоньніцу! Як запраўскі камандас, праходзіць Міхалыч праз вагонь і кулі, засьцілаючы свой шлях вахабіцкімі трупамі. У кульмінацыі стужкі дзед авалодвае сэксапільнай актрысай Хаматавай на даху грозьненскага нафтасховішча, аднячасова вышыбаючы мазгі Салману Радуеву разрыўной куляй «дум-дум». Вэндэта галоўнага героя сканчаецца поўным разгромам чачэнскага анклаву пад Аргунам, а заплаканая ўнучка вяртаецца ў сваю хрушчобу да разьбітага карыта. І гэта яшчэ не фінал. Мусуюцца чуткі, што «Варашылаўскі стралок» ператворыцца ў круты сэрыял, дзе дзед Міхалыч на працягу 231 сэрыі будзе рэгулярна адстрэльваць палюбоўнікаў сваёй унучкі ●

**Ігнат Галаванаў**

## КлЮбнае рэвЮ

# Новы год: дубаль два

Стары Новы год публічна адзначалі ў некалькіх кутках беларускай сталіцы.

– «Pall Mall» і Гена Старыкоў (у стылі стар-клюбу)
– «4 апельсина» (у стылі 50-ых гадоў)
– «Магна» (у стылі дырэктара менскага рок-клюбу Зайчанкі)
– «Оскар» (у стылі Нэкст Стоп – Нью Лайф)

На Гену мы не пайшлі: 10 баксаў уваход. Лепей за такія грошы мы ўзялі б пару фаўстаў чарнілаў і глядзелі б БТ. А вось пра наступныя тры вечарыны мы можам скласьці больш-менш акрэсьленае ўяўленьне.

### 1.«Голубой огонёк»

Дата: 12.01.
Клюб: «4 апельсина».
Каманды: «Лос Чыканас», «Метеор».
Білет: 600–800 руб.
Піва: 201 руб.

У «4 апельсинах» публіка пёрлася ад настальгіі па савецкіх 60-х, калі яе (публікі) нават не было ў праекце. Усяго такіх вычварэнцаў па сталіцы набралося з паўсотні, зь іх добра калі за білет заплацілі морд 5. Шкода дзяржаве відавочная. Каля сцэны публіку вітаў апарат для ананімнага мінету, вульгарна стылізаваны пад бутафорыю ракеты зь Белкай і Стрэлкай.

Пакуль везьлі барабаны, публіка патаемна глушыла пранесенае бухло, толькі касманаўт у балахоне з пап'е-машэ намагаўся разбудзіць скоцкія інстынкты, танцуючы летку-еньку. Нарэшце падвезьлі бубны, і пасьля прачытанай басьні Міхалкова пра касмапалітаў «Мыш і Пацук» усё завярцелася ў шалёным твісьце. Ахмялелыя ад адсутнасьці ў залі гопнікаў, потныя й п'яныя адмарозкі інтэлігенцкай зьнешнасьці каталіся па падлозе ў пылу разам з падшымі работніцамі трактарнага заводу.

### 2.«Дэд Мароз і...»

Дата: 12.01.
Клюб: Магна Каманды: «Грангл-Глі», «Без билета», «Спунфул», «Йо-Йо», «Лонг Плэй» і інш. (ад блюзу да панку).
Білет: 1000, пасьля 24.00 – 2000 руб.
Піва: 130 руб.

Абразіла да глыбіні душы, што піва ў бары скончылася ўжо а палове дзясятай (пры тым, што вечарына была начная). Публіка даганялася па суседніх начніках. Начным прагулянкам спрыяла й тая акалічнасьць, што туалет быў затоплены вадой, а а другой гадзіне начы прыйшла вахцёрка й заявіла, што ўся ваша музыка х... сабачы і ўвогуле зачыніла талчок. Аматары начных парці мачыліся па суседніх дварах і пад'ездах.

Спонсары вечарыны – «Чапс» – дыстрыб'ютавалі пакет другарадных сухарыкаў з чорнага хлебу, вываленых у каменнай солі. Г.зв. чапсы – сухарыкі «Чапаеўскія» – грызьлі да самае раніцы. Людзі з грашыма запівалі іх менскай гарэлкай за 9000, астатнія ж зьбіралі рэшткі жывіцельнай вільгаці проста са сталоў. Пасьля трох настала забыцьцё. Клюб паступова паміраў, пагружаючыся ў глыбокі сомнабулічны стан. Пік зьдзеку над асобай і правамі чалавека.

*Асноўным крытэрам выбару дасугу для большасьці моладзі зьяўляецца наяўнасьць халявы, таннага піва і ўгарнай тусоўкі.*

### 3.«Юбілей Нэкст Стопу»

Дата: 13.01.
Клюб: Оскар.
Каманды: абы хто.
Білет: 2000 альбо па запрашэньнях.
Піва: спачатку нахаляву, потым – да хера.

Закрытая вечарына, прысьвечаная дзесяцігодзьдзю Нэкст Стоп – Нью Лайф, аказалася не такой ужо закрытай. На адно запрашэньне можна было правесьці зь дзясятак аматараў халяўных бутэрбродаў і піва. Разьлівалі таксама глінтвэйн, шампань белага й чырвонага колеру і нават гарэлку. Пры ўваходзе кожнаму давалі па прэзіку, хаця кабінак для сэксу не было. На працягу першай гадзіны ўся халява была зьнішчаная. Народ паціху пацягнуўся ў бар. Выканаўцы былі няма ведама якія. Спачатку хор дзяўчынак у пяць галасоў сьпяваў па-ангельску заходнюю папсу. Потым яшчэ нехта нешта гундосіў, але з-за гоману прыйшлай на халяву публікі музыкаў можна было толькі бачыць. На першы погляд было дастаткова фальклёрна.

Тусоўка горда называла сябе «стоперамі» і весялілася. У асноўным гэта былі старпёры-грантасосы, якія віншавалі сябе зь дзесяцігодзьдзем атрыманьня першага гранту і глушылі горкую па кутах. Так і не дачакаўшыся пачатку танцаў, мы зваліл, прыхапіўшы з сабой каля сотні пакінутых без нагляду прэзэрватываў. ●

**Насьця Адстой**



Расісцка-гомасэксуальны шабаш «Трупаў» у аэрапорце Менск-1 спадабаўся чыноўнікам

# Прэмія для ККК

*Хто зацікаўлены ў падтрымцы дэкадэнцкага мастацтва?*

Шчыра кажучы, шмат пабачыўшы на сваім вяку й гатовы да любых вычварэньняў як супрацоўнік *Навінак*, я быў павергнуты ў шок і роспач. 5 студзеня са сцэны фэстывалю «Супэр-Вобраз'21» пад выглядам пэрфомансу «Трупы псыхасаматычнай неўраўнаважанасьці» лілася непрыкрытая прапаганда ку-клукс-кланаўскай садаміі. Аголеныя садысты выгналі на сцэну напаўраспранутых актораў-псоў. З другога боку Ільля Сін у каўпаку ККК-генэрала стаў рабіць усялякія непрыстойнасьці ў зад. Пасьля чаго зьнямоглыя псы палеглі каля ног Майстра, у той час як ён забаўляўся хамэрам...

Мы сышлі маральна апляваныя. Цяжка паверыць, што ўся расісцкая оргія была шчодра аплочаная дзяржструктурамі, якія прысудзілі пасьледышам Розэнбэрга першае месца ў намінацыі пэрфомансаў. Тымчасам Ільля Сін не хаваў свайго задавальненьня: «Атрыманую прэмію мы пералічым у фонд белай крыві, які дабіваецца рэпатрыяцыі ўсіх блэкмэнаў у Замбію. Гэта толькі пачатак нашай высокай місіі. Кроў і гонар! Паўднёвыя штаты форэвэр! Адпомсьцім за генэрала Лі!..»

Што тычыцца творчых плянаў «Трупаў», то 23 студзеня ў клюбе «Касмаполітэн» Сін зьбіраецца паліць крыжы пад скрыгат напільнікаў і электрадрэлі. ●

## ВакАцыі

### Грошы і задавальненьне.

Орган адной з апазыцыйных сэктаў *Студэнцкая думка* апублікаваў адрасаваны студэнтам ліст турыстычных агенстваў, што прапануюць за кругленькую суму адпачыць падчас вакацыяў. Што возьмеш з гэтых палітычных ідэалістаў, якія малююць сабе студэнта ў вобразе героеў буржуйскага сэрыяла «Элен і рабяты». Кожнаму нармалёваму чалавеку вядома, што 99,99% студэнтаў – гэта галота, абсалютна лянівая і неўдзячная, для якой адзіны шанец адарвацца за мяжой – упісацца на халяўны сэмінар, што арганізуецца нейкімі цёмнымі дэмакратычнымі масонамі. Тым жа, хто аддае перавагу дзікаму турызму, прапануем узяць на ўзбраеньне досьвед, які нядаўна прывезьлі мае сябры з падарожжа ў Маскву.

Галоднымі і злобнымі, шатаючыся па першапрэстольнай, яны нечакана адкрылі для сябе на ст.м Бабушкінская пункт прыёму спэрмы. Аказалася, што калі вы ня нэгр і не віетнамец, вам можна без пытаньняў падняць прыблізна 16 баксаў за адну порцыю біяматэрыялу. Працэдура абсалютна безбалючая і нават забаўная. Айбаліты заводзяць цябе ў паўцёмны пакой, сьцены якога стракацеюць ад пошлых малюнкаў, даюць спэцыяльную насадку і прапануюць расслабіцца.

Калі вы вялікі гігант маленькага сэксу, то можаце штодзённа мець верныя кішэнныя грошы, каб хлябнуць фірмовай «Балтыкі». Акрамя таго, што вы файна адарвецеся на атрыманыя грошы, можна будзе яшчэ доўга ў старасьці цешыць сябе думкай, што недзе па маскоўскіх праспэктах бегае вашае дзіця. Не ўпусьціце свайго шанцу!

## Урокі самаабароны для сэксуальных маньякаў

# Каб не засталі ўрасплох




У нізе: а, б і в. Прыклады найбольш бясьпычных і эфэктыўных мэтадаў работы з ахвярай.

Гэтыя ўрокі прызначаныя для тых, хто апанаваны маніякальнай ідэяй (полавая распуста, прага да жывёлаў, разбэшчваньне малалетак) і вымушаны цярпець ад зарваўшыхся дзяўчат і дзетак, якія падчас спробаў гвалтаваньня пускаюць у ход набор штучак-дрючак, пачынаючы ад прыёмаў джыў-джытсу і заканчваючы электрашокерамі й газавымі балёнчыкамі. Як весьці сябе ў экстрэмальных сытуацыях і адвесьці відавочную пагрозу ўласнаму здароўю? Нашы рэкамэндацыі простыя. Выконваючы іх, вы дасягнеце фэнамэнальных рэзультатаў, так што заўтра вас не застане ўрасплох ніводная фурыя, нават калі яна мае чорны дан, а ў яе рэдыкюлі прыпасены балёнчык з газам «Цыклён-Б».

***Акуратней зь дзяўчынамі***

Пік жаночага садызму супраць маньякаў пачынаецца бліжэй да лета, калі разнузданая фэміністская прапаганда штурхае прадстаўніц жаночага полу на антысамцовыя подзьвігі. Большасьць маньякаў, сутыкнуўшыся з жаночай самаабаронай, проста заміраюць ад страху. Вазьміце сябе ў рукі! Перш за ўсё паспрабуйце паразмаўляць з ахвярай. Спытайце яе гучным голасам, што канкрэтна дрэннага вы ёй зрабілі. Галоўнае – зьбіць з толку, выйграць час.

Далей паспрабуйце адкупіцца грашыма. Доўга шукайце кашалёк па кішэнях і давіце на агульначалавечыя каштоўнасьці. Спытайце, што ёй дасьць, калі яна прычыніць вам боль, распавядзіце, як вы штодня загінаецеся ад унутраных сэксуальных адхіленьняў. Пасьля гэтага жаданьне ў дзяўчыны ўваткнуць вам у вока пілку для пазногцяў відавочна зьнікне, і яна зробіць крок наблізіца да чалавечага вобразу, які ёй куды больш да твару чым гнюсная маска крыважэрнай амазонкі.

***Асьцярожна, дзеці!***

Калі вы пераканаы пэдафіл, вы мусіце быць пільным. Дзеці – набольш шкодная і непрадказальная ахвяра. Трэба памятаць, што дзеці страшэнна вынаходлівыя і могуць прытупіць вашыя сэксуальныя эмоцыі любым прадметам: цьвіком, камянём, пагрымушкамі. Як правіла, пасьля гэтага на маньякаў находзіць сэксуальная траўма, што характарызуецца паніжанай самапавагай, гіпэртрафаваным сорамам за тое, што ня здолеў нават пасьцяліць малалетку. Ёсьць нават выпадкі, калі залішне ранімыя вычварэнцы скончалі жыцьцё самагубствам. Лепш увогуле трымацца ад саплякоў падалей.

***Калі ўсё ж гэта адбылося***

Гэта самая сумная частка нашага апавяданьня. Як асьцярожна вы ні адсочвалі ахвяру, як па-мастацку ні раскідвалі сеці, як ні заманьвалі ў падваротню, вас так адтрахалі электрашокерам у прамежнасьць, што вам яшчэ доўга наканавана хадзіць раскаракай.

Пытаньне, што рабіць далей, застанецца для вас галоўным. Вы не знаходзіце сабе месца, вас круціць навыварат ад дасады й болю. Не парыце гарачку, лягце і засьніце, галоўнае – зьняць нэрвовы стрэс. Паспрабуйце пазьбягаць абагульненьняў. Ніколі не гаварыце: «Заўсёды ў мяне ня так, як ва ўсіх нармалёвых маньякаў!» Ні ў якім выпадку не лічыце сябе няўдачнікам. «У мяне ўсё добра», – гэта вы павінны паўтараць пяць разоў на дзень.

***Ці зьвяртацца ў міліцыю***

Цяпер закранем такое пытаньне - ці трэба інфармаваць органы, калі вам нанесьлі траўму, што назаўсёды выключае вас з полавага жыцьця. Галоўны контараргумэнт: у міліцыі вам будуць задаваць пытаньні, ад якіх вы можаце пачырванець да вушэй, а пасьля чаго яшчэ могуць прышыць тэрмін за спробу згвалтаваньня. Зразумела, кожны баіцца за сябе.

Аднак вам усё адно нічога не дапаможа. Зь іншага боку падумайце колькі яшчэ сэксуальна заклапочаных маньякаў можа падкурвіць гэтая сьцерва, калі яе своечасова не прыпугнуць артыкулам «Аб...»! Таму лепш адразу здацца органам улады. Свае высновы аб здарэньні паспрабуйце запісаць у сшытак. Калі вам удалося дастойна сустрэць няўдачу, заўтра ў вас усё атрымаецца ●

Вытрымкі з кнігі «Урокі самаабароны для маньякаў»


а)


б)


в)

# Techno-Party-2000

## *Тлумачальная запіска ў Цэнтральны РУУС г.Менску.*

Я, Конь Ярык, навучэнец ПТВ 52, у ноч з 15 на 16 студзеня 2000г. цалкам выпадкова расьпіваў гарэлку «Белая Русь» у раёне станцыі мэтро Акадэмія Навук. Дрэнна сябе адчуваючы, я заблудзіўся ў пошуках гастраному і ў выніку апынуўся ў двары нейкага будынку, дзе вакол дарагіх іншамарак таўпіліся нейкія падазроная людзі. Чамусьці мне здалося, што я ім не спадабаўся. Яны мне таксама.

У мэтах самаабароны я падышоў да аднаго, хто падаўся мне больш агрэсіўным і спытаў, ці ведае ён на каго наехаў. «А на каго?» – спытаўся ў адказ гэны підар. Я сказаў, што я Ярык Конь і што за мяне ўвесь раён падпішацца. «Як, ты – Ярык! Дык што ты стаіш, праходзь хутчэй у клюб! Мы цябе даўно чакаем». Натоўп запіхаў мяне ў нейкае цёмнае памяшканьне, дзе гавёная музыка грала на ўсю моц. З базараў навокал я зразумеў, што я трапіў на нейкую крутую тусоўку, дзе завісаюць толькі па запрашэньнях і толькі крутыя. «Ёпсь, тыгыдык – дыскач», – падумаў я і рушыў знаёміцца з кабыламі. Каля стойкі бару сядзелі тры пісюхі і трындзелі, як яны трахаюцца ў Інтэрнэце (ці інтэрнаце?).

«Ну што, маць», – сказаў я самай усьмешлівай (люблю такіх). – «Можа праводзіць цябе да майго дому? І сяброўку бяры. Яе ў Каляна прапішам». Кабылы вылупіліся на лямпасы маіх найкаўскіх штаноў. «Ох і ўдую я ім», – падумаў я і ламануў у бар па беленькую.

«Дзевушка, тры па дзьвесьце, два шампусіка і, калі ёсьць, бутэрброд з салам». «Сем мільёнаў дзьвесьце сорак тры тысячы», – загнула бабка за стойкай. «Ня поал», – ня поал я і паглядзеў у цэньнік. Такіх коштаў я ня бачыў нават на дыскатэцы ў нашым «Ледніку». Піва – мільён, гарэлка – 900 000, вінішча – 700 000... «Патрасу лахоў», – падумаў я і рушыў у калідор, дзе сутыкнуўся з даходам з пафарбаванымі ў белы колер валасамі, які чамусьці ўвесь час сушыў зубы.

«Ты што, підар?» – пажартаваў я. «Так, а ты таксама?» – усьміхнуўся той. Я адразу абламаўся наконт бабла, троху праверыў яму фанэру і рушыў у залю па сваіх крыветак. Яны адрываліся пад музон, што нагадваў роў адбойных малаткоў.

«Што танчыце, падругі?» – спытаў я. «Я толькі тэхна», – адказала мне адна малалетка і запіхнула ў рот марачку. – «Ха-ха-ха». «Патанцуем, малая», – ветліва запрасіў я яе на мядляк і, рамантычна схапіўшы за талію, пацягнуў круціць.

Аднак нешта ня пёрла. Музон быў нейкі калдырны. «Шчас будзе РУКІ ЎВЕРХ, ня сцы», – заспакоіў я падругу і пайшоў строіць музыкантаў. За пультам стаяла нейкае підрыла з галімымі пласьцінкамі. «Эй, браціша», – кажу. – «У мяне тут касэта ёсьць. Супэрзборка «Двігай попай-24». Пастаў для малой. У яе дзень нараджэньня. І перадай, што ад сухараўскіх пацаноў». Чувак за пультам яўна не разумеў, з кім мае справу. Ён працягваў мацаць свае дыскі. «Пайшлі выскачым. Справа ёсьць», – запрасіў я пацана і пачаў правяраць яму фанэру. Раптам ззаду падваліла ахова і цюкнула мяне па купалу чымсьці цяжкім. Далей нічога ня памятаю. Абавязуюся больш ніколі не парушаць грамадзкі парадак на тэхна-вечарынах ●

**Конь Яраслаў**


Ад дзікіх рэйвэраўскіх плясак стыне кроў у жылах


Гэтак абсалютна выпадкова наш карэспандэнт трапіў на тусоўку г.зв. «залатой моладзі».

# сэсія


Паляўнічыя
за халявай


А... Башка пасьля ўчорашняга гудзіць...
Сёньня ж экзамэн!
Халера, а я нічога не вучыў!


Значыць, прыйдзецца зноўку лавіць халяву


Што ты робіш, дурыла?


Тармазы! Раблю пастку для халявы.


Пару мікрасхемаў... і пастка гатова!


Ты ўпэўнены, што не калат...
...НЕ-Е-Е-Е!!!!!
Зараз праверым
АЙ
ОЙ


Во крр-р-рута! Проста скацерць-самабранка! Сапраўды халява!
...Здаецца, я нешта не туды прывінціў...


Ты ж глядзі схему запомні. Ну, за ўдачу!


Нешта фізікі расшумеліся


...Ля! Х.., п... ў жопу!
Не рублю, дзе ўсё пойла з закусонам падзелася!


Стоп! Ціха, клюнула!


Сыгнал ідзе з пакою Пашкі Севярынца


Цяпер я дагнаў, чаму яго дагэтуль не адлічылі


Неразумею... Тут мусіць быць трансгравітацыйная дзіра


Во, гарэлка! Сьвеціцца... Пэўна мазырская


Ну, каму пару кропляў для сугрэву?


Я Вялікая Халява! Ха-ха-ха! Нарэшце я на волі!


Даўным-даўно, пасьля мінулай сэсіі, я хацела пакаштаваць гарэлкі на халяву і трапіла ў бутэльку, але я вам за гэта адпомшчу!


Зараз паглядзім хто каго!
Ну цяпер іспыт па супрамату ў мяне ў кішэні.


Удала спаляваўшы на паранармальную пачвару, нашы героі ўпэўнена рушылі на іспыт па кібэрнэтычным праграмаваньні
О, здарова, даўно ня бачыліся. Я думаў, што цябе пасьля летняй папёрлі.
Спакуха, я цяпер усе сэсіі аўтаматам здаю.


Ну, пачвара, рыхтуйся...




Ну што?
Херня гэта, а не халява. Прыйдзецца ўсё пераздаваць
Здаў? Пятак?

